# Газета для вас

ІВАЦЭВІЧЫ–БАРАНАВІЧЫ–БЯРОЗА–ПРУЖАНЫ

№ 14(225) 7 — 13 красавіка 2000 г. | ГРАМАДСКАЕ НЕЗАЛЕЖНАЕ ВЫДАННЕ, ВЫХОДЗІЦЬ СА СТУДЗЕНЯ 1997 г. | Цана — 50 руб.









● *7 КРАСАВІКА — СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ ЗДАРОЎЯ*

## АД ЗДАРОЎЯ ДЗЯЦЕЙ ЗАЛЕЖЫЦЬ БУДУЧЫНЯ

Інна Уладзіміраўна Пякарская ўжо дванаццаць год працуе медсястрой у школе № 2 (зараз ліцэй) г. Івацэвічы. Праз яе рукі праходзяць сотні хлопчыкаў і дзяўчынак, а калі падняцца вышэй, то тых грамадзян Беларусі, якім будаваць краіну заўтра. Ці гатовы дзеці ў фізічным і маральным стане да гэтай справы, як яны адчуваюць сябе сёння? Каму, як не медсястры школы гэта лепш ведаць:

**— Інна Уладзіміраўна, як Вы ацэньваеце стан здароўя дзяцей у школе!**

— На жаль, за апошнія гады назіраецца тэндэнцыя пагаршэння здароўя. У многіх дзяцей падае зрок, шмат страўнікава-кішэчных захворванняў, павялічана шчытападобная залоза. Ёсць і дзеці, у якіх праблемы з сэрцам. З хранічнымі захворваннямі ў школе не вельмі многа дзяцей.

**— Як Вы лічыце, у чым прычына пагаршэння!**

— У нашых бытавых умовах, экалагічнай абстаноўцы. У дзяцей няма добрага адпачынку, добрага харчавання, гэта даўно ўжо непрывеліяваны клас. Нагрузка эмацыянальная, разумовая ды і фізічна вялікая. Не ўсе бацькі могуць забяспечыць дзяцей вітамінамі і фруктамі...

**— А ці бывае так, што дзеці прыходзяць да Вас з прыдуманымі хваробамі, каб не ісці на заняткі?**

— Ведаеце, у сучаснай абстаноўцы не да падазрэнняў. Вельмі ж гэта сур'ёзна — здароўе дзяцей, іх будучыня.

**— Ці своечасова паступаюць у школу медыкаменты і ці хапае іх!**

— Тут усё ў парадку. Усе лекі, якія я запытваю, выдаюць. Прышчэпкі робім своечасова і толькі аднаразовымі шпрыцамі. Да таго ж у падлеткавым кабінеце Івацэвіцкага РТМА аказваюць дапамогу, даюць добрыя парады. Дзякуючы адміністрацыі палiклінікі, праблем не ўзнікае.

*Пытанні задавалі Аляксандр ГОРБАЧ і Наталля КАПЫЦІЧ.*

*НА ЗДЫМКУ: медсястра Інна Пякарская.*

☎ *АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?*

## Ні "дзіцячых", ні зарплаты...

*"Газета для вас?" Дапамажыце высвятліць, калі, нарэшце, у нашым калгасе "Рассвет" будуць выплачаны так званыя дзіцячыя грошы за студзень, люты. На вуліцы ж ужо красавік. Справы ў калгасе і так ідуць няпроста, заробак затрымліваецца, і мы на гэтую дапамогу вельмі разлічваем. Сёння ж і грошай нідзе не пазычыш.*

*КОТ, ДОМАСЬ і іншыя працаўнікі калгаса "Рассвет" Івацэвіцкага раёна.*

На пытанне нашых чытачоў адказвае Аляксей Сямёнавіч АРЦЮХ, бухгалтар калгаса "Рассвет":

— Бацькам дзяцей, якім яшчэ не споўнілася тры гады, мы "дзіцячую" дапамогу за студзень ужо выплацілі. Тым бацькам, у каго дзеці старэй за 3 гады, а такіх у нас каля 225 дзяцей, затрымліваецца ў сувязі з тым, што не прыведзена ў належны стан, яшчэ афармляецца дакументацыя на ўсіх дзяцей.

Сёння, дарэчы, мы накіравалі хадайніцтва ў фонд сацыяльнай абароны Івацэвіцкага раёна, каб дапамаглі з грашовымі сродкамі. Зразумейце, што дапамога на такую колькасць дзяцей складае палову зара ботнай платы ўсіх нашых калгаснікаў за месяц (1 млрд. 700 тысяч недэнамінаваных рублёў — трэба выплачваць "дзіцячых" за месяц). Але, тым не менш, думаю, што на наступным тыдні грошы будуць выплачаны.

*P. S. Не хацелася б, але даводзіцца толькі жахацца стану калгасаў. Ну, які гэты стан, калі фонд заработнай платы роўны палове сумы дапамогі на дзяцей (у нашым канкрэтным выпадку) і калі калгаснік увогуле робіць, калі можна так сказаць, стаўку на тыя грошы, якія дзяржава выплачвае на дзяцей.*

## ЧАЛАВЕК ГОДА

За дасягнутыя высокія паказчыкі і вялікі асабісты ўклад у развіццё эканомікі, культуры і сацыяльных адносін па выніках 1999 года Брэсцкі аблвыканкам прысвоіў высокае званне "Чалавек года" 14 працаўнікам розных галін народнай гаспадаркі вобласці. Сярод іх прадстаўнікі нашага рэгіёна:

у галіне эканомікі і фінансаў — загадчык фінансавага аддзела Баранавіцкага гарвыканкама Віктар Іванавіч **Дзічкоўскі;**

у галіне транспарту і сувязі — дырэктар АП "Аўтобусны парк № 2" г. Баранавічы Уладзімір Уладзіміравіч **Пучко;**

у аграпрамысловым комплексе — спецыяліст па штучным асемяненні жывёлы эксперыментальнай базы "Белавусаўшчына" Пружанскага раёна Сцяпан Сцяпанавіч **Казловіч;**

у жыллёва-камунальнай гаспадарцы — дырэктар дзяржаўнай водаправодна-каналізацыйнай гаспадаркі Баранавіцкага гарадскога вытворчага аб'яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі Анатоль Мікалаевіч **Калінін;**

у галіне аховы здароўя — галоўны ўрач Белаазёрскага тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання Іосіф Адольфавіч **Дзежыц;**

у галіне сацыяльнай абароны — дырэктар Косаўскага псіханеўралагічнага інтэрната Івацэвіцкага раёна Васіль Міхайлавіч **Хмялеўскі;**

у праваахоўнай сферы — суддзя суда Пружанскага раёна Алена Аляксандраўна **Лагода;**

у галіне аховы навакольнага асяроддзя — загадчык кафедры Баранавіцкага дзяржаўнага вышэйшага педагагічнага каледжа Сяргей Канстанцінавіч **Рындзевіч.**

Кожнаму "Чалавеку года-99" будзе ўручаны дыплом і грашовае ўзнагароджанне ў памеры дваццаці мінімальных зарплат.

*Алесь САШЫН.*

## ЗНОЎ СПАБОРНІЦТВА?

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Іменна так. Як і ў савецкія часы. Райвыканкам нядаўна прыняў рашэнне аб спаборніцтве сярод калгасаў, саўгасаў, механізаваных звенняў, механізатараў на веснавой сяўбе і зацвердзіў умовы гэтага працоўнага саперніцтва.

Прачытаўшы такі афіцыйны дакумент, задумваешся: ці сур'ёзныя людзі яго пісалі? Плаціце таму ж механізатару добрую зарплату, і ён будзе працаваць без усякіх падганятых. Бо тая прэмія пераможцы спаборніцтва (аж пяць мільёнаў рублёў) такая смехатворная, што грэх людзям сказаць.

Цяперашняя зарплата ніяк не стымулюе зацікаўленасць механізатарскіх кадраў у калгасах. Іх катастрафічна не хапае. Бягуць людзі з калектыўных гаспадарак. Што й казаць, калі нават у глыбінцы, калгасе "Рассвет", амаль няма палявода.

Калі ж да гэтага дадаць, што паўсюдна ў гаспадарках мала спраўнай тэхнікі, гаруча-змазачных матэрыялаў, насення, то атрымліваецца даволі сумны малюнак перыяду наступлення веснавых палявых работ.

Праўда, беларускія банкі абяцаюць выдзеліць на пасяўную кампанію 40 мільярдаў рублёў. З іх звыш 11 мільярдаў, мяркуюць, пайшло ўжо на рамонт сельскагаспадарчай тэхнікі.

На жаль, штогадовыя мільярдныя ўліванні ў сельскую гаспадарку за апошнія пяць гадоў ніяк не ўзнялі яе эканоміку. Як і спаборніцтвы. Ідзе занепад і развал. Ніякай надзеі на адраджэнне. А хацелася б наадварот.

*Канстанцін ДЗЯМЧУК.*

## Грошы ёсць. Толькі на што?

**БЯРОЗА.** Жыхары горада надзвычай заклапочаны чысцінёй пітной вадаправоднай вады. Не-не, ды з кранаў бяжыць вадкасць колерам моцнага чаю. Ні есці зварыць, ні памыцца, ні бялізну памыць.

Работнікі камунальнай службы горада на скаргі жыхароў адказваюць коратка: няма сродкаў. Няма сродкаў, каб прывесці ў належны стан чатыры фільтры на Бярозаўскім водазаборы. Дарэчы, па іх жа словах, два фільтры нібы ачышчаны і адрамантаваны. Але вады чыстай як не было, так і няма.

Словам камунальнікаў насельніцтва Бярозы веры не дае. Ды і як верыць тлумачэнням аб адсутнасці сродкаў, калі ўсё кіраўніцтва РВА ЖКГ ездзіць на службовых аўтамабілях, а начальнік нядаўна замяніў надакучыўшыя "Жыгулі" на шыкоўную "Волгу-32". Ёсць жа ўсё ж сродкі?

*Васіль СТРОК.*

## Усебеларускі З'езд

Аргкамітэт Усебеларускага З'езда, які адбудзецца ў траўні г. г., працягвае распрацоўку свайго Рэгламенту. З гэтай нагоды ён звяртаецца да ўсіх грамадскіх арганізацый, палітычных партый, творчых і прафесійных саюзаў, якія падтрымліваюць ідэю Усебеларускага З'езда і маюць намер браць у ім удзел, зарэгістравацца ў Сакратарыяце да 14 красавіка. Гэта неабходна дзеля стварэння канчатковага Рэгламента, каб вызначыць меркаваную колькасць дэлегатаў і квоты для арганізацый.

**Увага! Кантактны тэлефон для рэгістрацыі — (017) 223-65-29.**

ЧАС РЭСПУБЛІКІ

## Нацбанку дадзена права штрафаваць службовых асоб

***Цяпер Нацыянальны банк Беларусі мае права накладаць штраф у памеры ад 150 да 500 мінімальных зарплат на службовых асоб банкаў, якія ўпаўнаважаны прымаць рашэнні аб выдачы крэдытаў, за іх выдачу пазычальніку, які мае пратэрмінаваную запазычанасць па раней выдадзеных яму крэдытах.***

Акрамя таго, галоўны банк краіны цяпер мае права патрабаваць адхілення кіраўніка банка ад займаемай пасады ў выпадку неаднаразовага парушэння (два і больш разоў на працягу года) банкам устаноўленых эканамічных нарматываў і невыканання нарматыўных прававых актаў, якія пацягнулі неплацежаздольнасць банка або стварылі пагрозу інтарэсам укладчыкаў і крэдытораў банка.

Гэтыя правы замацаваны за Нацбанкам прэзідэнцкім указам ад 3 красавіка, які ўнёс змяненні і дапаўненні ва ўказ ад 24 мая 1996 года "Аб захадах па рэгуляванні банкаўскай дзейнасці". Дагэтуль галоўны банк краіны меў права накладаць штраф (ад 50 да 200 "мінімалак") на службовых асоб банкаў, адказных за налічэнне і выплату працэнтаў па дэпазітах.

## Стратных прадпрыемстваў усё больш

***На 1 лютага 2000 года доля стратных прадпрыемстваў у народнай гаспадарцы Беларусі дасягнула 40 працэнтаў.***

Такія звесткі паведаміў 4 красавіка ў сваёй прамове перад дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі першы намеснік старшыні Вышэйшага гаспадарчага суда Беларусі Віктар Камянкоў.

Прырост стратных прадпрыемстваў за год, паводле ягонага сцвярджэння, склаў 12,8 працэнта. Сума выдаткаў ад дзейнасці неплацежаздольных прадпрыемстваў у цэлым па народнай гаспадарцы склала больш за 30 мільярдаў дэнамініраваных рублёў.

Гэтая сітуацыя, зазначыў В.Камянкоў, суправаджаецца ростам пратэрмінаванай дэбіторскай і крэдыторскай запазычанасці прадпрыемстваў. Пры гэтым, падкрэсліў В.Камянкоў, доля безнадзейнай запазычанасці знаходзіцца ў прамой залежнасці ад працягласці перыяду, падчас якога крэдытор абавязуецца пагасіць свае даўгі. Гэта, па ягоных словах, вядзе да таго, што колькасць хранічных даўжнікоў у Беларусі пастаянна павялічваецца. Паводле дадзеных маніторынгу фінансавага стану, праведзенага Дзяржкамітэтам па санацыі і банкрутстве, сёння 46 працэнтаў дзяржаўных камерцыйных арганізацый рэспубліканскай формы ўласнасці неплацежаздольныя. Прычым толькі 14 працэнтаў з іх маюць магчымасць аднавіць сваю плацежаздольнасць на працягу шасці месяцаў, а 4 працэнты — патэнцыяльныя банкруты.

## Яшчэ раз аб узроўнях утрымання радыёнуклідаў

***Да лета гэтага года беларускія допушчальныя ўзроўні (РДУ) утрымання радыенуклідаў у прадуктах харчавання будуць адпавядаць расійскім.***

Пра гэта 4 красавіка заявіў старшыня Камітэта па пераадоленні наступстваў катастрофы на ЧАЭС пры Міністэрстве надзвычайных сітуацый Беларусі Іван Кенік, выступаючы ў Нацыянальным прэс-цэнтры ў Мінску на прэс-канферэнцыі па пытаннях міжнароднага супрацоўніцтва ў справе пераадолення наступстваў Чарнобыльскай катастрофы.

Як вядома, дзеючыя ў Беларусі допушчальныя ўзроўні ўтрымання радыенуклідаў у прадуктах харчавання (РДУ-99) сталі больш жорсткімі ў параўнанні з папярэднімі. Аднак і яны прадугледжваюць больш высокае (у 2—3 разы) утрыманне цэзію-137 у шэрагу прадуктаў харчавання, чым у аналагічных нормах, прынятых у Расіі і ва Украіне.

Разам з тым, як заўважыў І.Кенік, па ўтрыманні стронцыю ў прадуктах харчавання айчынныя нормы з'яўляюцца больш жорсткімі ў параўнанні з адмысловымі нормамі ў Расіі і ва Украіне. "Аднак, можна мець даволі жорсткія нормы, але не займацца праверкай утрымання радыенуклідаў у прадуктах харчавання", — падкрэсліў старшыня Камчарнобыля. Па ягоных словах, з дапамогай двух тысяч радыяцыйных пастоў, што дзейнічаюць у краіне, наладжаны сталы кантроль за выкананнем межава дапушчальных узроўняў утрымання радыенуклідаў у прадуктах харчавання.

*(БелаПАН).*



ВАШЕ ПИСЬМО

## КРАДУТ. ЧТО ДЕЛАТЬ НАМ В ДЕРЕВНЕ?

По национальности я русская, но родилась и большую часть жизни провела в Казахстане. Никогда не думала, предположить не могла, что судьба закинет меня в Беларусь.

После трагической смерти жены моего единственного сына взяла к себе на воспитание их дочь, свою внучку Танечку. Сын ведь вскоре опять женился. Я её вырастила, поставила на ноги. И привыкла, и полюбила свою Танечку так, как и сына, кажется, не любила. Выросла Таня эффектной красивой девушкой.

Там же, в Казахстане (а жили мы в пригороде Алма-Аты), моя дорогая внучка познакомилась и вышла замуж за офицера, выходца из Белоруссии, минчанина. Вскоре они переехали жить в Минск.

Вскоре и нам, русским, в Казахстане не стало житья. Мой сын уехал в Подмосковье, где начал постепенно обживаться. Туда, в Подмосковье, вскоре пришлось, бросив все, уехать и мне, а через год после этого меня в Минск забрала Танечка, определила в хорошую поликлинику под Минском (мне очень болела нога, и вопрос стоял вообще о её ампутации, но, слава Богу, все наладилось). Чуть позже Таня и её муж Эдик, родители которого имеют свои исторические корни на Ивацевиччине, купили мне небольшой домик в д. Могилицы всё того же Ивацевичского района.

Так, совершив невероятный кульбит через страны и тысячи километров, я оказалась в белорусской глубинке.

Сразу скажу, здешние люди, мои новые соседи, понравились. Особенно среднего, пожилого возраста, а также те молодые семейные пары, которые крепко держатся за хозяйство и неплохо, зажиточно живут. Эти люди с большим пониманием отнеслись к моей судьбе, к моим просьбам.

Я переехала в Могилицы в мае, после начала посевного сезона, но мне помогли и картошкой, и просто добрым советом, иногда транспортом. Я, естественно, тоже захотела обзавестись хозяйством, потому вскоре в моем маленьком дворе, кажется, ступить негде было: цыплята, индюшата, гусята.

Но я не знала о некоторых особенностях сельского быта. Вместе с теми же цыплятами, гусятами, индюшатами мне еще, видимо, надо было покупать и ружьё...

Когда осенью 1999 года я заболела и легла в Ивацевичскую больницу, то попросила соседку посмотреть за моим хозяйством.

Тут-то нас и обворовали. Украли за одну ночь 7 петухов, 3 индоутки, гуся, индюшку. Особенно обидно то, что крадут сегодня с таким размахом.

Вернувшись из больницы, я обратилась в милицию. Милиционер, который занялся этим происшествием, почему-то прежде всего заинтересовался моим гражданством, пропиской, а когда обнаружил некоторые недочеты, то просто накричал на меня.

На том всё и закончилось. Кто так безжалостно "подшутил" над моими стараниями, трудами? Видно, бессмысленно задовать этот вопрос. Проще, похоже, видеть во мне прописавшегося временно или постоянно жителя, сложнее-человека.

...Этой весной обворовали опять. В ночь с 8 на 9 марта воры, видимо, решили, что лучше поздно, чем никогда, и преподнесли мне очередной "подарок" — теперь унесли 7 кур. Я решила не обращаться в милицию. После первого "знакомства" пропало всякое желание. Мой двор осиротел. Страшно на улицу выйти. Те последние куры, которые не унесли воры, жмутся около крыльца. Неужели мне нужно их с собой в дом забирать?

***Татьяна Захаровна БОГДАНЧУК,***
***пенсионерка,***
***ветеран труда.***
***Ивацевичский район.***

МІЛАСЭРНАСЦЬ

## ПРЭЗЕНТАЦЫЯ ЦЭХА

Напрыканцы 1998 года старшыня Пружанскай асацыяцыі дапамогі дзецям-інвалідам і маладым інвалідам Вольга Міхайлаўна Вашкевіч прывезла з Мінска радасную вестку: асацыяцыя атрымае грант (дапамогу) ад амерыканскага фонду "Коунтэрпарт". Кампетэнтная камісія тады прызнала праект пружанцаў па рэабілітацыі дзяцей з разумовымі і фізічнымі абмежаваннямі найбольш удалым. Адпаведна і дапамога аказана важкая: 12 тысяч 510 долараў ЗША. На гэтыя грошы амерыканцы паставілі абсталяванне па вырабу бульбяных чыпсаў. Адкрытае акцыянернае таварыства "Пружанскі малочны завод" прадаставіла памяшканне ў будынку былога адміністрацыйнага корпуса. На працягу ўсяго мінулага года ішла ўстаноўка і наладка абсталявання.

Днямі ладзілася прэзентацыя гэтага цэха, у якім цяпер працуюць восем інвалідаў дзяцінства і пяць дарослых з ліку бацькоў. Мерапрыемства сабрала прадстаўнікоў дзяржаўных і грамадскіх арганізацый розных узроўняў, спонсараў, бацькоў і медыкаў. На прэзентацыі прысутнічалі дырэктар Беларускага прадстаўніцтва фонду "Коунтэрпарт" В. Канаш і супрацоўніца гэтага прадстаўніцтва К. Рыд, прадстаўнік дабрачыннага таварыства "Сафія" Хамбергер, начальнік аддзела сацыяльных праграм Фонду прэзідэнцкіх праграм Ю. Мальцаў, інспектар Міністэрства адукацыі В. Шух, галоўны спецыяліст Дзяржаўнага камітэта па працы Ж. Шчамілёва, старшыня Беларускай асацыяцыі дапамогі дзецям-інвалідам Л. Века.

Госці павіншавалі маладых рабочых з пачаткам працоўнай біяграфіі, уручылі падарункі. Ішла размова аб рэабілітацыі інвалідаў у рэспубліцы, аб неабходнасці сістэмнага навучання інвалідаў дзяцінства, аб адкрыцці інтэрнатаў і рэабілітацыйных цэнтраў.

З цікавасцю прысутныя слухалі выступленне дырэктара ААТ "Пружанскі малочны завод" М. Ханцэвіча, які расказаў пра тыя цяжкасці, што сустрэліся падчас адкрыцця цэха бульбяных чыпсаў. Цэх не прынёс таварыству ніякіх матэрыяльных выгод. Не ў эканамічных паказчыках справа. Радасць пакрыўджаных лёсам дзяцей, што атрымалі ўпершыню рабочыя месцы, важней за ўсялякія эканамічныя выгоды.

На прэзентацыі ўдзельнічалі вучні спецкласа СШ № 5 г. Пружаны са сваёй настаўніцай Л. В. Панько. Выхаванцы пакутуюць вельмі цяжкімі разумовымі і фізічнымі немачамі, аднак навучыліся чытаць, пісаць і спяваць. Дзеці выступілі з канцэртам.

Пружанскі цэх бульбяных чыпсаў — першы ў рэспубліцы цэх для дзяцей-інвалідаў. Іменна гэтыя абставіны тлумачаць увагу грамадскасці і спецыялістаў да яго работы.

***Аляксандр ПАНЮЦІЧ.***
***г. Пружаны.***

ЮБІЛЕІ

## Памяці Я. Пархуты

Вечарына, прысвечаная 70-годдзю з дня нараджэння нашага земляка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Яраслава Пархуты, ладзілася ў Рэспубліканскім доме журналістаў.

— Ён мог быць яшчэ сярод нас — сваіх родзічаў і сяброў. Але здарылася непапраўнае — чатыры гады таму бацька памёр. Мне вельмі прыемна, што сябры і калегі яго не забываюць, — сказала дачка Пархуты Кацярына Яраславаўна.

Яраславу Пархуце пасмяротна прысуджана ганаровае званне "Заслужаны журналіст Беларускага саюза журналістаў" з адпаведнай прэміяй, якую ўручыў удаве пісьменніка Ніне Міхайлаўне старшыня БСЖ Леанід Екель.

Сваімі ўспамінамі аб дзяцінстве, праведзеным з братам у вёсцы Мілейкі Івацэвіцкага раёна, падзялілася сястра Тамара Сільвестраўна Пархута. Узяў слова і Юрый Разанаў — унук Я. Пархуты, які ўжо змог дабіцца ўнушальных дасягненняў у спорце.

Беларускі саюз журналістаў заснаваў прэмію імя Я. Пархуты і будзе прысуджаць яе лепшым паслядоўнікам яго творчасці.

***Алесь САШЫН.***

РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

## ШТО ПАЧЫМ?

***Цэны на рынках нашага рэгіёна па стану на 5.04.2000 г. (у руб. за адзін кілаграм):***

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны |
|---|---|---|---|---|
| Свініна | 1000—2200 | 1500—2500 | 1000—1800 | 1200—1700 |
| Сала салёнае | 800—1000 | 1500 | 1100 | 1000 |
| Алей (1 л) | 630—850 | 600—900 | 550—750 | 660—750 |
| Яйкі | 400—450 | 400—500 | 380—450 | 445—460 |
| Малако (3 л) | 250 | 300 | 270 | 260 |
| Тварог | 400 | 400 | 400—500 | 360 |
| Масла сметанк. | 1000 | 1800 | 1000 | 1500 |
| Цыбуля рэпч. | 200 | 150—220 | 200 | 200 |
| Капуста | 100 | 100—110 | 150 | 90 |
| Бульба | — | 120 | 100—120 | 95—100 |
| Морква | 200 | 200—250 | 170—200 | 190 |
| Агуркі свеж. | 650—800 | 550—800 | 900 | 1100 |
| Яблыкі | 300—480 | 300—400 | 340—450 | 400—460 |
| Памідоры | 2000 | 2500 | 2100 | — |
| Вінаград | 2000 | 2500 | 2600 | — |
| Грэцкія арэхі | 800—900 | 850 | 850—950 | 820 |
| Часнок | 1000 | 1200 | 1200 | 1200 |
| Лімоны | 1000 | 1000 | 1100 | 1100 |
| Апельсіны | 700—800 | 650—800 | 790 | 850 |
| Бананы | 700—800 | 720—800 | 790 | 850 |
| Мандарыны | 900—1000 | 920 | 880 | 960 |
| Грэчка | 600 | 580 | 650 | 650—660 |
| Макар. вырабы | 270—400 | 300—400 | 280—320 | 270—300 |
| Рыс | 400—430 | 500 | 430—450 | 450—460 |
| Манныя крупы | — | 350 | 350 | 360 |
| Проса | 250 | 300 | 230 | 300 |
| Цукар | 280 | 280 | 290 | 280 |
| Мёд | 2.400 | 2.500 | 2.500 | 2.400 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ (руб.)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 930 | 960 | 920 | 960 | 920 | 950 | 920 | 950 |
| 1 дойчмарка | 440 | 460 | 445 | 460 | 445 | 460 | 445 | 460 |
| 1 рубель Расіі | 32 | 33 | 32 | 33 | 32 | 33 | 32 | 33 |

● ТАЛЕНТЫ СЯРОД НАС

## Паэт-пчаляр Мікола Папека атрымаў "Глінянага Вялеса"

Калі прачытаць анатацыю ды ўступ да зборніка вершаў Міколы Папекі "Чарнавікі...", дык можна заўважыць рознабаковую характарыстыку яго творчасці: "пошукавая паэзія", "постмадэрнісцкі гатунак", і нават "папекаўскі". Праўда, гэты "парадокс" вытлумачаны: вершы Міколы пра нашае парадаксальнае жыццё на ўлонні парадаксальнай прыроды. І цяжка не згадзіцца з меркаваннем прадстаўнікоў Таварыства Вольных Літаратараў, што М. Папека — "глыбока нацыянальны паэт".

Дзіўна, але факт. Таварыства Вольных Літаратараў, якое месціцца на Віцебшчыне, здолела знайсці недзе зборнік вершаў М. Папекі, хоць выдадзены ён у Берасці накладам усяго ў 300 паасобнікаў. Асабліва захапіўся творчасцю Міколы адзін з сяброў Таварыства Алесь Аркуш, які асабіста распачаў ліставанне з Міколам. Распавядае сам лаўрэат:

**— Акрамя мяне, на прэмію "Гліняны Вялес" былі вылучаныя яшчэ 3 чалавекі (ужо прызнаныя і даволі вядомыя ў пэўных колах асобы): П. Васючэнка, А. Глобус, а таксама сябар ТВЛ Вінцэсь Мудроў. Аднак перамаглі мае "Чарнавікі." Упершыню пра гэта даведаўся з ліста таго ж А. Аркуша.**

Уручэнне прэміі адбывалася ў Полацкім музеі-бібліятэцы імя Сімяона Полацкага 18 сакавіка. Як мы ўжо казалі, Таварыства Вольных Літаратараў абвясціла Міколу Папеку "кансерватыўным, глыбока нацыянальным паэтам". І хоць прэмія неафіцыйная, але аб яе ўзроўні сведчыць той самы факт, што "Вялеса-97" атрымаў А. Разанаў, а прэмію 98-га года У. Арлоў, які нядаўна разам з Г. Сагановічам выдалі ў Вільні кнігу "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі", якая ўжо цяпер завецца "кнігай XXI стагоддзя". Такое вось прызнанне атрымалі дзве выдадзеныя ў 1999 годзе кнігі двух землякоў і сябрукоў (Мікола Папека і Генадзь Сагановіч родам з вёскі Турная Івацэвіцкага раёна). Праўда, Генадзь Сагановіч і Уладзімір Арлоў прэзентуюць сваю кнігу па ўсёй краіне, а вось "Чарнавікі..." прэзентавалі толькі ў Берасцейскім дзяржаўным універсітэце. А як было б цудоўна наладзіць прэзентацыю зборніка ў Пружанах ці Івацэвічах! Магчыма, не тыя зараз у людзей памкненні і турботы, аднак жа народ павінен усвядоміць, што без падвышэння свайго культурнага ўзроўню далёка не паедзеш. Ці,як кажуць нашыя браты-летувісы, "па каўбасе на неба не залезеш".

*Раман ПАТАПЧУК, маладзёвы прэс-клуб г. Пружаны.*

● КОНКУРСЫ

## "САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ"



*МАРИНА, по гороскопу — Близнецы. Кумир — Kurt Cobain, солист группы "Нирвана". В свободное время встречаюсь с другом, мечтаю поступить в мединститут.*

*Нравятся маленькие, длинноволосые, с добрым характером и грустинкой в глазах брюнеты.*

## "СЯБРЫ ГАРМОНІІ І ШТАНГІ"



*АЛЯКСАНДР, по гараскопу — Стралец. Мае любімыя групы — "Scooter" і "ДДТ". У вольны час займаюся спортам, гляджу тэлевізар, аддаю перавагу камедыям і баевікам.*

*Падабаюцца высокія, стройныя, з мягкім позіркам дзяўчаты. Хочу заўважыць, што жаночая ножка на доўгім абцасе выглядае вельмі сексуальна.*

● ПРОИСШЕСТВИЯ

## Вся жизнь — милиции

В милиции работал, в милиции и умер. Так уж случилось в жизни пенсионера Министерства внутренних дел, которому 80 лет. Пришел по делам в городской отдел милиции, а тут как на беду, сердечный приступ. Прибывшая в считанные минуты машина скорой помощи не помогла. Человека не стало.

Как, скажите, не поверить в то, что существует ирония судьбы и как не вспомнить строки Е. Баратынского "Мгновенье мне принадлежит, как я принадлежу мгновенью..."

*Галина СТРОЦКАЯ. г. Барановичи.*

● КУЛЬТУРА

## Хадакоўскія вячоркі

У Хадакоўскім сельскім Доме культуры адбылася вечарына, падрыхтаваная фальклорным калектывам "Спадчына", вучнямі сёмага і дзевятага класаў Хадакоўскай СШ.

Вечарыну адкрыла кіраўнік гуртка "Спадчына" Людміла Фёдараўна Міраноўская. Яна расказала пра ролю спадчыны ў жыцці чалавека, падкрэсліла, што менавіта маладым засталася свая нацыянальная спадчына, багатая і цікавая.

Па-святочнаму была ўбрана сцэна. На ёй імправізаваны пакой вясковай хаты. Тут былі стол, ложак, лавы, сундук, печ, ступа, маслабойка, вышытыя ручнікі, навалачкі, сурвэткі, саматканыя абрусы, посцілкі, радзюжкі. "У гэтым "пакоі" і адбываліся ўсе падзеі.

Удзельнікі вечарыны ў нацыянальным убранні хораша чыталі байкі, расказвалі розныя жыццёвыя гісторыі і здарэнні, спявалі песні. Радавалі сваім умельствам танцоры, былі дражнілкі і загадкі...

Найбольш спадабаліся гледачам народныя танцы "Кракавяк", "Падыспан" у выкананні юных танцораў Андрэя Колтуна і Святланы Кулініч, Аляксея Кулініча і Алены Верабей, Васіля Клютка і Таццяны Дорах.

У канцы вечара гасцінныя гаспадары пачаставалі прысутных сваім караваем.

У тым, што выступленне "Спадчыны" было добра падрыхтавана і выклікала вялікую цікавасць, значная заслуга дырэктара СДК і музыканта К. М. Жабінская.

Са словамі падзякі да ўдзельнікаў вечара звярнулася жыхарка вёскі Хадакі Любоў Мікалаеўна Букшта, іншыя вяскоўцы.

*Таццяна ПАЛЯКОВА, жыхарка в. Хадакі, былая настаўніца беларускай мовы і літаратуры Хадакоўскай СШ.*

● ДЕМОГРАФИЯ

# СИМПТОМЫ ВЫМИРАНИЯ

## Жителей Беларуси уже в этом году станет меньше 10-ти миллионов

Когда население Земли состояло из двух человек, никаких затруднений с их учетом не было. Но Богу, очевидно, захотелось поупражняться с большими числами. Иначе зачем бы он отдал изгнанным из рая хитроумной Еве и простодушному Адаму директиву: "Плодитесь и размножайтесь!"

Воля божья — закон. Поэтому потомки Адама и Евы взялись за дело с усердием. И в скором времени счет пошел на десятки, сотни, сотни тысяч, миллионы и миллиарды человек. И хотя род людской страдал от голода и холода, войн и эпидемий, он неизменно рос, чтобы к 12 октября 1999 года достичь астрономической цифры — 6.000.000.000 (6 миллиардов!). Причем прирост последнего миллиарда случился всего за 12 лет. А через 50 лет, считают эксперты ООН, народонаселение мира может достичь 9 (!) миллиардов.

### МЕРОПРИЯТИЕ ПОЛИТИЧЕСКОЕ

Проблема народонаселения всегда была дискуссионной и для одних являлась предметом конкретной политики (чтобы управлять страной, надо знать ее человеческие ресурсы), а для других — спекулятивной: плодитесь, даже если есть нечего! Кроме того, численность народа говорила о потенциальных экономических, оборонных и других возможностях страны.

Поэтому для изучения вопроса стали проводить переписи населения. Их в истории нашего края было несколько: в Российской империи — в феврале 1897 г., в СССР — в декабре 1926 г., январе 1937 г., январе 1939 г., январе 1959 г., январе 1970 г., январе 1979 г. и январе 1989 г. Для того, чтобы результаты лучше было сравнивать, в советские времена (так принято и вообще в мире) переписи старались проводить один раз в десять лет. Начиная с переписи 1939 г., десятилетний интервал нарушался лишь дважды — переписи не было в 1949 г. (по причине тяжелого экономического положения страны и из-за нежелания руководства предавать огласке истинные размеры потерь во Второй мировой войне), вместо января 1969 г. перепись проводилась в январе 1970 г. (по финансовым причинам).

А итоги переписи 1937 г. дали численность населения СССР примерно на 8 миллионов меньшую уже объявленной властями. Руководители переписи, понятно, были названы "врагами народа" и уничтожены. Как и результаты переписи. Через два года советских людей вновь пересчитали и насчитали ровно столько, сколько хотелось Сталину.

### БЕЛАЯ РУСЬ СИНЕЕТ

Для характеристики половозрастной динамики любого общества существуют три определения: прогрессивное, стационарное и регрессивное.

Когда детей больше, чем пенсионеров, тогда, понятно, прогресс. Если поровну, то динамика отсутствует. Если детей меньше, чем стариков, то демографическая ситуация ухудшается (регресс). В Беларуси, по мнению заместителя министра статистики и анализа Галины Гасюк, по предварительным результатам переписи населения ситуацию можно оценить как фифти-фифти. Но она стремительно ухудшается.

Для иллюстрации демографической динамики регионы с положительным естественным приростом населения обозначаются оттенками красного (от розового до насыщенного) цвета. И наоборот, деградирующие в этом отношении регионы обозначаются оттенками синего (от голубизны до глубокой синевы). Так вот, на демографической карте БССР, составленной по итогам переписи-89, отдельные районы Полесья были обозначены бледно-розовым цветом. Перепись-99, как отметила г-жа Гасюк, выявила общую тенденцию посинения. Причем до густой синевы.

Иными словами, население вымирает. Причин тому множество, и их сразу не определишь. Поэтому уместно говорить о неизбежных последствиях, с которыми столкнутся те, кто будет еще жить в стране через 5 — 10 лет. Главное из них — это резкое (в два раза) сокращение трудовых ресурсов при аналогичном увеличении категории лиц в возрасте старше трудоспособного.

Вывод из всего этого напрашивается очень простой: чтобы обеспечить потребление даже на современном мизерном уровне, необходимо повысить в несколько раз эффективность экономики. Задачка еще та, при наших традиционных подходах посильная разве что для энтузиастов первых пятилеток.

Однако возвратимся к вещам конкретным. По сравнению с 1989 г. население Беларуси уменьшилось на 107 тыс. человек (1%). Произошло это в результате превышения числа умерших над числом родившихся, что не компенсировалось миграционным приростом. Процесс этот протекал не везде одинаково. Выросла численность населения в Минске, Брестской и Гродненской областях, сократилась — в Минской, Витебской, Могилевской и Гомельской. Городское население в целом увеличилось на 5%, но процесс урбанизации замедлился, поскольку за предыдущие 10 лет число горожан возросло на четверть. Численность сельчан уменьшилась на 426 тыс. человек (12%), в то время как в 80-е годы — на 788 тыс. человек. В данном случае разница объясняется как сокращением миграции из деревни в город, так и общим сокращением численности сельского населения.

Десять лет назад половозрастная пирамида населения Беларуси покоилась на широком основании, поскольку детей в возрасте от 0 до 4 лет насчитывалось 819,2 тысячи, а сейчас это основание сузилось до 476,1 ты

При всем при том отрицательная демографическая динамика, выявленная в ходе переписи, не стала неожиданностью, поскольку о ней убедительно свидетельствовал текущий статистический учет. Кстати, учитывая сложившуюся динамику рождаемости и смертности, отражаемую статистикой, специалисты делают вывод о том, что численность населения Беларуси уже в этом году станет меньше 10 миллионов.

*Константин СКУРАТОВИЧ, БелаПАН.*

ЭКОНОМИКА

# ШЕФЫ СЕЛО НЕ СПАСУТ

Назначение, а затем и утверждение Палатой представителей Владимира Ермошина на пост председателя Совета Министров Республики Беларусь вызвало в обществе надежды на изменения в экономике к лучшему. Как-никак, а новый руководитель правительства должен сделать что-то такое, что позволит приостановить кризис и расчистить путь для хотя бы небольшого экономического роста.

Но конкретные действия нового премьера засвидетельствовали, что ожидать позитивных изменений, пожалуй, не стоит. Новый руководитель правительства либо расчищает прежние завалы в экономике, либо делает шаги, направленные на улучшение положения в одних секторах за счет других при малой вероятности успеха. Подтверждаются слова А. Лукашенко при утверждении В. Ермошина, когда глава государства заявил, что никаких изменений в экономической политике не будет и что "направления движения определены главой государства. Задача правительства — определить, как нажимать на педали".

Нажимая на педали своей ограниченной компетенции, В. Ермошин прежде всего обратил внимание на то, как остановить рост задолженности по заработной плате, которая за первые два месяца года и уже в первые недели новой трудовой деятельности премьера В. Ермошина продолжала расти, достигнув к началу марта 10 миллиардов новых рублей, или 10,4 процента фонда заработной платы. Причем более половины этой задолженности приходится на колхозы и совхозы, где она превышает 60 процентов фонда заработной платы за период задолженности.

Как выйти из этой ситуации? Владимир Ермошин созвал 14 марта президиум Совета Министров, чтобы обсудить этот вопрос.

На заседании речь даже не шла о том, чтобы установить какую-то справедливость в системе распределительных отношений. Обсуждался только один аспект распределения: как остановить рост задолженности по заработной плате и ликвидировать ее как ненормальное явление.

Упорно искали чиновники выход из тупикового положения, но так и не нашли. Высказывались только за усиление требовательности к руководителям предприятий по организации заработной платы, обтекаемо посоветовали использовать собственные средства, а если их нет, то брать краткосрочные кредиты. Но самое удивительное, что был и такой совет — расширение натуральных расчетов, то есть бартера в распределительных отношениях. Не от хорошей жизни правительство В. Ермошина идет на эту меру. Такого еще не было.

Экономическое положение, в частности финансовое состояние, в стране настолько тяжелое, что В. Ермошин с первых недель своей работы вынужден прибегать к непопулярным мерам. Так, накануне дачного сезона с 10 марта резко (на все 100 процентов) повышены тарифы на проезд в поездах внутриреспубликанского и пригородного сообщения.

Находясь в режиме "нажатия на педали", В. Ермошин определил и свою политику в области финансов и ценообразования. Во время рабочего визита в Бобруйск он заявил, что в этом году правительство не намерено увеличивать определенный Национальным банком размер денежной эмиссии. А она на 2000 год определена в размере 76 миллиардов рублей. Значит, в первом квартале она составит не более 19 миллиардов рублей. "Мы будем работать в пределе тех средств, которые есть в бюджете областей и внебюджетных фондов",— заявил новый руководитель правительства. Однако, если правительство действительно намерено "прижать" эмиссию кредитных денег, то чем это можно возместить? Только дополнительными налогами и сборами. И это уже началось.



Например, введение на два месяца (март — апрель) дополнительной продажи валюты предприятиями-экспортерами. Плюс к 30 еще 10 процентов.

Что касается изменений в ценообразовании, т.е. введения свободных цен, то на этот шаг правительство В. Ермошина не пойдет. Думается, по той простой причине, что наилучшее время для этого упущено. А при нынешнем экономическом положении страны, считает В. Ермошин (и, видимо, он прав), свободные цены привели бы к значительному обнищанию людей, чего допустить нельзя. Руководитель правительства только не уточняет, что либерализация цен, то есть на первом этапе их неизбежное повышение, при отсутствии рыночных отношений не может стимулировать рост производства и снижение цен потом. Они просто застынут на запредельном уровне, чего и боится правительство.

Поэтому неизбежно дальнейшее повышение цен, например, на сельскохозяйственную продукцию. И, по мнению В. Ермошина, они будут подниматься до уровня нормативной себестоимости. Это ничего хорошего потребителям не сулит. Ведь если либерализация цен предполагает их снижение до уровня равновесных в самые короткие сроки, то движение цен к уровню нормативных затрат имеет лишь одну тенденцию — их рост.

Ничего нового пока не заявлено со стороны правительства относительно регулирования денежно-кредитных и валютных отношений. Об этом свидетельствует возня вокруг ставки рефинансирования, устанавливаемой Национальным банком. Более месяца назад она была повышена со 150 до 175 процентов годовых.

Если вести речь о том, чтобы обеспечить кредитование народного хозяйства при положительной ставке процента, то это был мощный удар по инвесторам. Почувствовав ошибку, буквально через месяц Национальный банк вновь изменил ставку рефинансирования, т.е. снизил ее сначала до 150, а потом и до 130 процентов. Понятно, по указанию сверху, в том числе и нового премьер-министра.

Однако наиболее неожиданным было его решение, призванное реанимировать шефскую помощь колхозам и совхозам. Специальным распоряжением правительство закрепило за министерствами и другими республиканскими органами государственного управления отдельные (понятно, отстающие) колхозы и совхозы в качестве подшефных. Такое распоряжение, с одной стороны, есть возврат к старому, а с другой, свидетельствует о том, что проводить реформы в сельском хозяйстве правительство не намерено.

Однако точка на этом не поставлена. Восстановление шефского движения только начинается. Правительство поручило также облисполкомам и Минскому горисполкому закрепить отстающие колхозы и совхозы за промышленными предприятиями. Таким образом, предприятия, и без того экономически ослабленные, будут вынуждены переключать свои ограниченные ресурсы на сельское хозяйство.

Известно, что шефы мало спасали село в прошлые времена. Тем более не спасут сейчас.

*Владимир КУЛАЖЕНКО, доктор экономических наук, профессор. БелаПАН.*

ГОЛАС НАРОДА

# Ці давяраеце Вы прадаўцам?

*Безумоўна, што большасць з нас лічаць тыя грошы, якія ляжаць у нашай кішэні. І менавіта кропкі гандлю з'яўляюцца тым месцам, якое "вымывае" з нашых кашалькоў асноўныя сродкі.*

*А яшчэ існуе ўстойлівае меркаванне, што кожны прадавец зацікаўлены ў тым, каб хоць мінімальна аблічыць пакупніка. Маўляў, справы магазіна могуць быць увогуле дрэнь, калі прадавец будзе разлічвацца з пакупніком "па нулях".*

*А што на гэты конт, дарэчы, думае вуліца? Вось якія адказы мы атрымалі ад некаторых прахожых у горадзе Івацэвічы.*



**Іван Аркадзьевіч, ваенны пенсіянер, нам. начальніка аб'яднання "Ахова":** Хай толькі паспрабуюць мяне ў магазіне абважыць ці аблічыць. Наш горад невялічкі: усе адзін аднаго ведаюць. Тое, што я чалавек пры пасадзе, таксама ўсе ведаюць.

Хоць, напэўна, у прынцыпе падман магчымы. Калі тое зробіць маладая прывабная прадаўшчыца, то палічу яе дзеянні за жаданне пазнаёміцца (смяецца).



**Вольга Мікалаеўна, рэкламны агент:** Не можа такога быць, каб прадавец не абліч ваў пакупніка.

Аднойчы ў магазіне "Спадарожнік", што знаходзіцца насупраць вакзала, перад навагоднімі святамі мяне аблічым на 200000 (недзямінаваных) рублёў. Я зрабіла заўвагу прадаўцу, яна пералічыла ўсё і аддала мне тыя грошы. А вось такога, каб прадавец абліч ыўся на маю карысць, я штосьці не памятаю...

**Надзея Антонаўна, фатаграфавацца адмовілася:** Лічу, што калі чалавеку давярана стаяць у прылаўка, то яму можна давяраць. Па сваёй натуры я чалавек даверлівы, грошы тым не менеі час ад часу падлічваю і не памятаю, каб мяне хоць хто-небудзь падмануў. Хоць я чула, што бывалі выпадкі, калі работнікі адпаведных служб выкрывалі нячыстых на руку прадаўцоў.

А яшчэ гавораць, што вельмі ўжо абліваюць і абвешваюць у магазіне Бярозаўскага мяса-кансервавага камбіната (вул. Шаўчэнкі).

**Аня:** Часцей за ўсё я пералічваю грошы, і, бывае, заўважаю, што аблічваюць мяне, аблічваюць і рэшта, якую мне даюць прадаўцы, некалькі меншая за тую, што павінна быць па маіх падліках. Але я, паколькі сумы неістотныя, не спрачаюся — не хочацца псаваць сабе настрой.

Такое нярэдка здараецца са мной, калі наведваю магазін, што знаходзіцца каля дзіцячага садка "Сонейка".



**Якаў Сяргеевіч, пенсіянер, Віталь Пятровіч, рабочы:** Раней, памятаем, і вельмі часта абважвалі і аблічвалі ў нашых Івацэвічах. Зараз не тое.

Сёння ўсё інакш можа і таму, што зараз увялі касавыя апараты, і, напэўна, цяжка абліч ыць пакупніка. Хоць той, хто па-сапраўднаму падманвае нашага брата, робіць гэта настолькі прафесійна, што нам і не ўбачыць іхняга падману.

*У народ хадзілі Вольга СЕСАРАВА, Аляксандр ГОРБАЧ, Аляксей ГАНЧУК (фота).*

**КАМЕНТАР СПЕЦЫЯЛІСТА:** Калі звярнуць увагу на забеспячэнне прылаўкаў прадуктамі, на дызайн, афармленне інтэр'ераў нашых гандлёвых кропак, то, я ўпэўнена, любому, хто непрадузята адносіцца да нашай працы, кінецца ў вочы зрух да лепшага. Работа гэта вядзецца і будзе працягвацца надалей.

Мы пастаянна трымаем у полі зроку якасць работы нашых прадаўцоў. Праводзім работу з загадчыкамі ўсіх гандлёвых прадпрыемстваў горада і раёна. Два разы ў месяц усе гандлёвыя кропкі правяраюцца спецыялістамі райпо і нашых падведамственных арганізацый.

Калі ж у пакупніка ўзнікаюць пытанні да прадаўца, то ёсць іншыя лепшыя шляхі для вырашэння пытанняў, чым трыманне злосці на прадаўца ці магазін і выказванне свайго абурэння за яго сцэнамі.

Па-першае, пры ўзнікненні спрэчных пытанняў вы можаце выклікаць загадчыка магазіна. Вас заўжды выслухаюць. Па-другое, сёння ў кожным магазіне размешчана інфармацыя для пакупніка, дзе пазначаны імёны і нумары тэлефонаў, па якіх вы можаце выказаць свае думкі, ацаніць работу прадаўца ці магазіна ў цэлым.

*Валянціна Сцяпанаўна ЛЮСЦІБЕР, намеснік старшыні Івацэвіцкага раённага спажывецкага таварыства.*

АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?

# Хто адрамантуе тэлевізар?

*У мяне тэлевізар "Рубін-208". Як і кожная купленая рэч, з цягам часу псуецца. Што ж, трэба рамантаваць. Звярнуўся я ў адну майстэрню, другую і мне кажуць: няма нам ніякай выгады рамантаваць ваш тэлевізар, звяртайцеся да іншых майстроў.*

*Чаму ж мне, інваліду, трэба шукаць нейкіх майстроў, калі ў райцэнтры ёсць майстэрні? Паспрабуйце, калі ласка, патлумачыць мне гэта?*

*В. П. ГОЛУБ, жыхар г. Івацэвічы.*

**Па просьбе Васіля Пятровіча Голуба я звярнуўся ў тэлемайстэрню ААТ "Гарант-Сервіс", што знаходзіцца па вуліцы Леніна, 62 у Івацэвічах. Яе загадчык В. І. ХАВАНСКІ сказаў наступнае:**

— Тэлевізар "Рубін-208" старога выпуску і эксплуатуецца звыш дзесяці гадоў. Па інструкцыі такія тэлевізары нельга ўжо браць у рамонт. Мы не ўзяліся яго рамантаваць па простай прычыне: няма ў нас запчастак да такіх тэлевізараў. Так што хай прабачае Васіль Пятровіч.

**Па вуліцы Савецкай (ля камерцыйнай аптэкі) ёсць прыватная тэлемайстэрня. Яе майстар Анатоль Мікалаевіч ЖУШМА на маё пытанне аб рамонце "Рубіна-208" сказаў так:**

— Мы бралі ў рамонт і "Рубін-208". Некалькі іх адрамантавалі. Адзін з нашых майстроў прынёс свой стары тэлевізар "Рубін" на запчасткі. Вось і выкарыстоўвалі яго. А зараз запчастак няма і становіцца праблемай адрамантаваць стары тэлевізар. Наогул, калі тэлевізійны прыёмнік адпрацаваў звыш дзесяці гадоў, то мы пасля рамонту не можам даць гарантыі на нейкі тэрмін. Што ж, такая рэальнасць...

З майстрамі нельга не пагадзіцца. Бо праблемы зараз ва ўсіх і, канешне, у пераважнай большасці экамнічныя.

*Святаслаў КАЖАДУБ.*

# Ці ведаеце Вы, што...

**за апошнія пяць гадоў хлеб падаражаў у 2000 разоў, каўбаса — у 530, а малако — у 3330 разоў...**

